ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 42 (141) 10 - 16 лістапада 1995 г. Кошт 600 рублёў

ДЗЕЛЯ ЧАГО МЫ ЖЫВЕМ? - ст. 3.

ДУШЫМ САМЫХ ЛЕПШЫХ - ст. 4.

НЕ ДАВАЙЦЕ СЯБЕ КРЫЎДЗІЦЬ - ст. 8.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.

## СЬВЯТА ЎЗЬНЁСЛАСЬЦІ І СУМУ

**Дзяды... Дзень, калі са сну спахапляецца людзкая памяць. У тых, хто яшчэ мае ў сабе сілы людзьмі звацца. Дзяды-95 паказалі, што Беларусь жыве, бо жыве памяць пра людзей, якія зрабілі яе для нас адзінай, любай.**

...Бел-чырвона-белая хваля, якая плыла 2 лістапада па вуліцах Горадні, прываблівала да сябе позіркі прахожых і праезджых, убірала ў сябе новых удзельнікаў шэсьця памяці. «Дзякуй вам, дзеткі, пайду і я памалюся ў царкве!» - даведаўшыся пра мэту шэсьця кажа сівая бабулька. У настроях калоны мяжуюць узьнёсласьць і сум. Мы зноў разам, пад сваім сьцягам! Але чаму толькі на Дзяды? Блукаюць сярод прысутных і чуткі, што ветэраны паспрабуюць перашкодзіць шэсьцю «нацыяналістаў». Аднак тых турбавалі іншыя справы. Працэсія спыняецца ля помнікаў Элізе Ажэшцы, Янку Купалу і, нарэшце, ля будынку чыгункі, на сьцяне якога і ўмацаваная мемарыяльная дошка ўдзельнікам паўстаньня 1863 года. Тут, на чыгунцы, адбыўся тады няроўны бой паміж паўстанцамі і царскімі войскамі. Жывымі пасьля яго аказаліся толькі адзінкі. Ды і тых чакала Сібір. Перад удзельнікамі выступаюць кандыдат гістарычных навук Алесь Краўцэвіч, старшыня гісторыка-культурнага клуба Віктар Варанец. Затым пад сьпевы «Бацькаўшчыны» шэсьце рушыць да Калоржы, Грунвальдзкага каменя. Прамаўляюць Кастусь Жынь, Мікола Маркевіч, Тадэвуш Гавін. Хвіліна маўчаньня. Сьвечкі і сьціплыя восеньскія кветкі.

Пасьля былі каталіцкія, праваслаўныя, новыя могілкі. Ушанаваньне памяці Васілька, маці Багдановіча, акадэміка Астроўскага, Аляксея Карпюка, сваіх родных і блізкіх... Узьнёсласьць і сум.

**В.РУДНІК.**



**На здымку:Момант адкрыцьця мемарыяльнай дошкі.**
**ФОТА У.ВЫДЗЕРКІ**

## ГЭТА Ж ВАШ КАМУНІЗМ ВЯРНУЎСЯ!

...7 лістапада. Абед. Перапоўнены ветэранамі тралейбусны прыпынак ля «Рамбыттэхнікі». Падыходзяць два тралейбусы: адзін біткам набіты, другі - пусты. Усе кідаюцца да апошняга, але кіроўца дзьверы не адчыняе, паказваючы на шыльду з надпісам «Кантроль». І сапраўды, у салоне тралейбуса сядзяць тры мажныя ружовашчокія «кантралёркі». «Рэжуцца» ў «дурня». «Безобразие!» - крычыць адзін з ветэранаў. «Ды не, гэта ж ваш камунізм вярнуўся», - адказвае яму нейкі дзядок у лясьнікоўскай фуражцы...

«А і на самой справе - чым ня сімвал часу?» - падумалася мне пасьля гэтага знарок пачутага дыялогу. Не пасьпеўшы ці ня здолеўшы сесьці ў ільготны вагон у савецкія часы «героі ўчарашніх дзён» ткнуліся ў наступны. А там ужо сядзіць выхаванае імі ў лепшых бальшавіцкіх традыцыях ружовашчокае «маладое пакаленьне», якому напляваць на тое, што іх бацькі і дзяды толькі што пад помнікам свайму правадыру «змагаліся» за шчасьце будучых пакаленьняў...

Урачысты бальшавіцкі мітынг, як і чакалася, з самага пачатку ператварыўся ў перадвыбарчы сход. Пад чырвонымі сьцягамі (дарэчы, не было ніводнага «лукашэнкаўскага») камуністы, «патриоты» і «трудовики» бэсьцілі суверэнітэт, дэмакратыю, «беловежских зубров», Адраджэньне і заклікалі ...абраць іх у парламант краіны. Для таго, каб яе зьнішчыць. Адстаўныя «кадэбісты», міліцыянты ды афіцэры сьпявалі гімны, крычалі «Ура!» ды трасьлі кулакамі. А затым рушылі на тралейбусны прыпынак...

**В.МАЛЬСКІ.**

## ШУФЛЯ ДЗЁГЦЮ

**Многія гарадзенцы шчыра зьдзіўляліся з нагоды адкрыцьця мемарыяльнай дошкі ў гонар паўстанцаў Каліноўскага. Як гэта ўлады наважыліся на такі «гераічны» крок? Зьдзіўленьне перайшло ў недаўменьне і абурэньне, калі пазнаёміліся з надпісам на памятным знаку:**

«Тут, на чыгуначным вакзале 14 сакавіка 1863 года адбыўся бой паміж атрадам Гарадзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі і царскім войскам». Брава, бальшавіцкія рэтушоры ад гісторыі! Амаль што «Далоў самадзяржаўе, няхай жыве рэвалюцыя!» Што ж, такая падача Каліноўскага была дазволена і ў часы брэжнеўскай стагнацыі. Уся савецкая гісторыяграфія даводзіла, што нацыянальна-вызваленчае паўстаньне 1863 года было ледзь не пярэдаднем Кастрычніцкай рэвалюцыі. Так што зроблены яшчэ адзін унёсак у гэтым накірунку.

**Марцін КАЛАМУТНЫ.**

## СЬПЕЦПРАГРАМА ДЛЯ СЬПЕЦКАНТЫНГЕНТУ

**4 лістапада ў драмтэатры прайшоў урачысты вечар, прысьвечаны «Дню Кастрычніцкай рэвалюцыі». Трапіць у залу можна было толькі па запрашэньню - змагары за ўсеагульную роўнасьць пускалі толькі «сабе роўных» і пільна сачылі, каб не «проникли провакаторы».**

У прэзідыуме - прадстаўнікі гарадзкіх, абласных уладаў, вышэйшыя чыны міліцыі, войска, КДБ, старшыні ветэранскіх арганізацый. Асноўны даклад рабіў старшыня гарадзкога Савету сп.Гудзей.

- «...В массовое сознание внедряется идея, что во всём виновата революция... Восстановление исторической правды не обошлось без перекосов. Это сказалось на моральном состоянии общества, воспитании подрастающего поколения... Эхо исторического залпа Авроры... Ленин оказался не в силах довершить начатое...»

І амаль ні слова пра Беларусь. У такім стылі выкладалі гісторыю КПСС у перабудовачныя часы ў гарадзенскім універсітэце. Можа, хтосьці з тых выкладчыкаў і стварыў гэты «опус» для сп.Гудзея...

Выступ старшыні абласнога Савету сп.Домаша быў больш лаканічным: «Дзячкуючы Кастрычніку мы маем суверэнную Беларусь...» Вось так! А мне здавалася - дзякуючы Сакавіку...

Пасьля перапынку, падчас якога ўдзельнікі маглі пачаставацца выстаўленымі ў файе гарэлкай, каньяком ды шампанскім, адбыўся «сьвяточны канцэрт». Рэвалюцыйна-фальклорная праграма, створаная гарадзкім аддзелам культуры, пацьвердзіла, што калі трэба, дык і да дня нараджэньня Мао нашыя кіраўнікі культурай «скляпаюць» адпаведную імпрэзу. Пасьля вечарыны «ублажённых» удзельнікаў «сьвята» развозілі «сьпецтралейбусы». Як у старыя «добрыя» часіны...

**В.ЛЮДВІКОВІЧ.**

## ЛІДЗКІЯ КАМУНІСТЫ ІГНАРУЮЦЬ ЛУКАШЭНКАЎСКУЮ СІМВОЛІКУ

Каля 70 камуністычных дзядкоў і бабулек наладзілі 7 лістапада шэсьце па горадзе. Ладна граў добра аплачаны аркестр, за якім ледзь пасьпявалі «таварышы». Характэрна, што над калонай было шмат савецкіх сьцягоў і ніводнага новага Лукашэнкаўскага. Відаць, камуністам напляваць на волю народу, выказаную на «усенародным» рэферэндуме.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

## ЖАЛОБНЫЯ СЬЦЯГІ НА АЎТАМАГІСТРАЛІ

7 лістапада кіроўцы, якія рухаліся па дарозе Гродна-Беласток, у некаторых населеных пунктах маглі ўбачыць бел-чырвона-белыя сьцягі ў жалобным аздабленьні. Сьцягі, у прыватнасьці, віселі на станцыі Ласосна і Каробчыцы. На працягу дня некаторыя з іх былі зьнятыя па загаду ўладаў. Аднак, некаторыя правіселі да самага вечара. Такім чынам, для адных рэвалюцыя - дзень трыумфу, а для другіх - жалобы.

**В.М.**

## ПРА КАГО КЛАПОЦЯЦЦА МІНІСТРЫ?

На гарадзенскім заводзе карданных валаў спынена вытворчасьць малалітражных аўтамабіляў «Ака» для асоб з парушаным апорна-рухальным апаратам. Міністэрства сацыяльнага забесьпячэньня Беларусі вырашыла разьмясьціць заказ на вытворчасьць «інвалідак» на Запарожскім аўтазаводзе, на базе украінскай «Таўрыі». Чым кіраваліся міністры, прымаючы такое рашэньне - невядома. Відавочна тое, што грошы, укладзеныя ў стварэньне лініі па зборцы аўтамабіляў у Горадні пайшлі на вецер. Больш таго, ліквідуюцца працоўныя месцы для дзесяткаў людзей. Ды і хуткасьць выкананьня заказу наўрад ці будзе лепшай. Адным словам, пра каго клапаціліся міністры?

## ПРАШЫТАГА АБУТКУ СТАНЕ МЕНЬШ

На Гарадзенскім акцыянерным таварыстве «Абутак» зачынены рантавы цэх. Апошнія месяцы ён працаваў з вялікімі перабоямі - няма сродкаў для таго, каб купіць неабходную сыравіну. Многія рабочыя знаходзіліся ў вымушаным адпачынку. Закрыцьцё цэху, аднак, не азначае, што прадпрыемства перастане выпускаць прашыты абутак. У прыватнасьці, адзіная працаваўшая у рантавым цэху патоказьмена, якая працавала ў асноўным на ваенныя заказы, пераведзена зараз у швейны цэх.

Скарачэньне вытворчасьці выклікала, зразумела, і скарачэньне працоўных месцаў. Аднак амаль усе пажадаўшыя застацца на прадпрыемстве рабочыя зачыненага цэха забясьпечаныя новымі працоўнымі месцамі.

## МАЛАДЫЯ НАВУКОЎЦЫ АБ'ЯДНАЛІСЯ

Новая грамадзкая арганізацыя зарэгістраваная днямі ўпраўленьнем юстыцыі аблвыканкаму. Асацыяцыя маладых навукоўцаў «Віт» аб'ядноўвае ў сваіх шэрагах студэнтаў, асьпірантаў і выкладчыкаў Гарадзенскага універсітэту і мае на мэце спрыяньне навуковым дасьледаваньням у галіне гуманітарных навук, пашырэньню сувязей з маладзёжнымі арганізацыямі іншых краінаў і г.д.

## «НЁМАН» ЗАМЕСТ «ІКАРУСА»?

Соты юбілейны аўтобус сыйшоў з канвейера лідзкага завода «Нёман». Створаная на месцы былой ваеннай лініі вытворчасьць істотна дапамагае вырашаць праблему пасажырскіх перавозак на Беларусі, бо лідзкія аўтобусы каштуюць таньней, чым вугорскія «Ікарусы», якія складаюць асноўную частку аўтапаркаў буйных гарадоў краіны.

**В.М.**

## ЛУКА МУДЗІШЧАЎ САПРАЎДЫ ПРЭЗІДЭНТ?

**Днямі ва ўсе вабласныя ўпраўленьні унутраных спраў паступіла чарговая грозная дырэктыва: знайсьці асобу аўтара памфлета «Лука Мудзішчаў - прэзідэнт», які быў надрукаваны ў газеце «Свабода». З гэтай нагоды на паседжаньне Гарадзенскай Рады Беларускага Народнага Фронту завітаў старшы оперупаўнаважаны аддзела крымінальнага вышуку Гарадзенскага УУС, які чамусьці менавіта ў гэтай арганізацыі вырашыў шукаць няўлоўнага Вядзьмака Лысагорскага.**

Тое, што Вядзьмака пачалі шукаць ня толькі людзі з «канторы» і пракуратуры, але й «доблестные сыщики», у абавязкі якіх ніколі не ўваходзіла цікавіцца мастацкай літаратурай, дазваляе па-першае зрабіць выснову, што забойцы, злодзеі і ашуканцы на Беларусі могуць спаць спакойна. Па-другое, калі ўлічыць той факт, што мясцовы Мегрэ для візіту абраў вечар сьвяточнага дня, калі «твёрдые ленинцы» звычайна падымаюць чарку ў гонар антызаконных дзеяньняў купкі людзей з суседняй краіны па зьвяржэньню існуючай улады шляхам узброенага путчу, то дырэктыва, відаць, была самая што ні ёсьць грозная. Можа нават ад самага вялікага начальніка. Міжволі закрадаюцца думкі: няўжо мастацкі вобраз Лукі Мудзішчава мае нейкія адносіны да начальства? А можа і да самаго Аляксандра Рыгоравіча?

Мы гэтаму ня верым!

**Ул.інф.**




**P.S.: Калі гэтая інфармацыя рыхтавалася да друку, стала вядома, што актывісты Фронту выклікаліся ў Гарадзенскую абласную пракуратуру дзеля таго, каб дапамагчы праваахоўчым ворганам арганізаваць супраць Зянона Пазьняка крымінальную справу па факту выступу (!) лідэра БНФ 3 верасьня ў Горадні ў аблдрамтэатры. Відавочна, што ўладамі распачынаецца шалёная псіхічная атака па дыскрэдытацыі сваіх палітычных апанентаў напярэдадні выбараў.**

# ШАНУЙМА БЕЛАРУСЬ!



Паважаныя выбаршчыкі горада Смаргоні. Дзякуй Вам за падтрымку падчас збору подпісаў за кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Савету. Я памятаю, што і ў 1994 годзе на прэзідэнцкіх выбарах менавіта смаргонцы і івейцы мяне найбольш падтрымалі. Я вырашыў балатавацца па Смаргоні, каб пасьля выбраньня прадстаўляць нашы народныя інтарэсы ў Вярхоўным Савеце краіны, спрыяць напісаньню справядлівых законаў і кантролю за іх выкананьнем, бо няма нічога горшага ў дзяржаве за беззаконьне. Сам я родам з тутэйшых мясьцінаў (Іўеўскі раён) і добра ведаю нашы клопаты.

Уладу не павінна мець самадурства і сваволя. Улада абавязана паважаць Канстытуцыю, людзей і не займацца ашуканствам. Я лічыў і лічу, што Беларусьсю павінен кіраваць найперш калектыўны ворган - парламант. Лёс кожнага з нас не павінен залежаць ад настрою аднаго чалавека, які б гэты чалавек ні быў. На жаль, спраўдзіліся самыя кепскія прагнозы адносна прэзідэнцтва - мы дажылі да нацыянальнай ганьбы.

Таму я змагаўся, змагаюся і буду змагацца за дэмакратычную парламанцкую сістэму ўлады ў Беларусі і за ўсталяваньне справядлівасьці.

Гэта значыць:

- каб кожны чалавек мог працаваць і атрымліваць за сваю працу нармальную плату;
- каб закон выконваўся і абараняў чалавека;
- каб кожны пеньсіянер мог атрымліваць гарантаваную законам пеньсію з улікам стажу і характару яго працы, каб меў права, калі захоча, працаваць з захаваньнем поўнай пеньсіі і зарплаты;
- каб кожная маладая сям'я мела гарантаваную законам магчымасьць за кароткі час пабудаваць свой дом ці кватэру за кошт ільгот;
- каб самы высокі начальнік ня мог паслаць вашых дзяцей або ўнукаў ваяваць у Чачню, Таджыкістан ці на Балканы;
- каб дзяржаўны службовец падпарадкоўваўся закону, а не сваволі вышэйшага начальства;
- каб прадпрымальнік не стагнаў пад цяжарам непасільных дзяржаўных пабораў, а змог, заплаціўшы разумны падатак, развіваць вытворчасьць, ствараць новыя працоўныя месцы, павялічваць выпуск тавараў;
- каб дзяржаўныя прадпрыемствы не прастойвалі ў выніку няправільнага дзяржаўнага кіраўніцтва эканомікай і фінансамі, а працавалі і развіваліся, штуршок да чаго павінны даць інвестыцыі, адпаведныя дзяржаўным інтарэсам законы і кантроль за іх выкананьнем.

Дасягнуць справядлівасьці і дабрабыту ў грамадзтве можна толькі тады, калі ёсьць вольная і незалежная дзяржава, якая кіруецца законамі і народнымі прадстаўнікамі. Вось чаму клопат аб нашай Бацькаўшчыне Беларусі, аб яе свабодзе і незалежнасьці - найважнейшы.

Наша свабода, якая гарантуе правы людзей, і вольная дзяржава - найвялікшыя каштоўнасьці, за якія мы разам павінны змагацца, якія абавязаны ўмацоўваць і аберагаць.

Усё гэта я адстойваў і буду адстойваць у Вярхоўным Савеце.

**Зянон ПАЗЬНЯК.**

# ЗВАРОТ
## кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Аляксандра Дзергачова

Паважаныя грамадзяне!

Наступіў вельмі цяжкі час. Прадпрыемствы зьнясіленыя. Абкладзеныя дзяржаўнымі паборамі людзі ледзь трываюць такое жыцьцё.

Пад пагрозай дзяржаўнасьць і Канстытуцыя Беларусі. Прэзідэнт не прызнае ні існуючы Вярхоўны Савет, ні рашэньні Канстытуцыйнага Суда. А.Лукашэнка фактычна прысвоіў сабе функцыі Вярхоўнага Савету. Пагражае зусім скасаваць яго, калі 29 лістапада ня будуць абраныя дэпутаты.

Адзін з намесьнікаў Пракурора краіны заявіў, што ён будзе кіравацца ўказамі прэзідэнта, а не законамі. Гэта шлях да новай сталіншчыны.

Ініцыяваная прэзідэнтам гульня ў «інтэграцыю з Расеяй», акрамя страты вялікіх сродкаў на рэферэндум, нічога народу не прынесла. За год прэзідэнцтва Лукашэнкі мы яшчэ раз пераканаліся ў шкоднасьці аднабаковых эканамічных адносінаў. Беларусь павінна быць эканамічна адкрытай ва ўсе бакі.

У такіх умовах толькі новы Вярхоўны Савет, у які будуць абраныя сумленныя людзі, што любяць Бацькаўшчыну і наш народ, выратуе Беларусь ад спаўзаньня ў крымінальную багну, ад пераўтварэньня ў калонію, якой кіруе купка невукаў.

Прыкладам нязгаснай любові да Бацькаўшчыны, нястомнай барацьбы з падманам і невуцтвам, прыкладам непадкупнасьці і сумленнасьці я лічу Зянона Пазьняка, які вылучаны кандыдатам ў дэпутаты Вярхоўнага Савету. За яго вылучэньне паставілі подпісы амаль тры тысячы смаргонцаў.

Якімі толькі бруднымі метадамі не вялі з ім барацьбу, але ён заўсёды выходзіў пераможцам.

Памятаеце, як перад веснавымі выбарамі Прэзідэнт па рашэньні суда прасіў прабачэньня у Пазьняка за сваю хлусьню пра яго? Папрасіўшы прабачэньня, Лукашэнка тут жа «па просьбах працоўных» запатрабаваў паўтарыць паказ фільма Азаронка «Нянавісьць. Дзеці хлусьні». Але і паклёпнік Азаронак быў змушаны прасіць прабачэньня згодна з вынесеным рашэньнем суда!

Хлусьліўцы, як бачым, адзін за другім самі трапляюць у яму, якую капалі для Пазьняка.

Я здымаю сваю кандыдатуру прэтэндэнта на мандат дэпутата Вярхоўнага Савету і заклікаю маіх прыхільнікаў прагаласаваць 29 лістапада за Зянона Пазьняка. Заклікаю таксама кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савету, для якіх галоўнае — не барацьба за ўладу, а выратаваньне ад жабрацтва людзей Беларусі, зьняць свае кандыдатуры на карысьць Зянона Пазьняка.

З павагай,

**А.Дзергачоў.**

# ПАЗЬНЯК — НАДЗЕЙНЫ ЧАЛАВЕК

Нялёгкі лёс чакае будучы Вярхоўны Савет. Ён яшчэ не абраны, не пачаў працаваць, а ўжо чуваць пагрозы на яго адрас. Можна толькі ўявіць, пад які ўціск з боку прэзідэнцкай улады патрапяць нашыя абраньнікі. Ці ва ўсіх хопіць моцы адстаяць сваю думку, ці ўсе ўтрымаюцца ад згодніцтва? Цяжка быць упэўненым. Такіх непахісных людзей, як Пазьняк, на Беларусі наогул нямнога, ці шмат жа іх знойдзецца ў Вярхоўным Савеце? І менавіта прынцыповасьць, сьмеласьць Зянона Пазьняка дапамогуць адстойваць інтарэсы выбаршчыкаў нават дэпутатам зь іншымі палітычнымі поглядамі.

Мае сыны нарадзіліся ў Смаргоні, бегалі малыя на стары млын купацца. Мне шмат ня трэба. Я хачу быць упэўнены, што маім хлопцам не начэпяць на шапкі чужога арла, што яны будуць вучыцца, працаваць і кахаць на цёхай і ветлай сваёй Беларусі, і што іхнія прадзеды, якія спачываюць у зямлі, будуць ведаць, што на старых палетках расьце жыта, а не пустазельле над ракетнымі бункерамі.

Для гэтай сьціплай маёй мары патрэбны разумны і патрыятычны Вярхоўны Савет. І я не магу ўявіць сабе гэты Вярхоўны Савет без Зянона Пазьняка.

**А.БЕЛЯНКОЎ,**
**загадчык хірургічнага аддзяленьня Ашмянскай райбальніцы.**

# ПАЛЯВАНЬНЕ ЗА ДВУМА ЗАЙЦАМІ

**Пасьля чатырохдзённага «адыходу» ад аплявухі, атрыманай ад Канстытуцыйнага суда, які прызнаў законнай пастанову аб зьніжэньні кворуму для яўкі дэпутатаў з 50 да 25 працэнтаў, прэзідэнт урэшце «выбухнуў» чарговым «разоблачительным» дакладам.**

**Аўдыторыя слухачоў была падабраная невыпадкова - дэпутаты Вярхоўнага Савету трынаццатага скліканьня, якія былі тэрмінова скліканыя на «працоўнае паседжаньне».**

Выступ Лукашэнкі, як і чакалася, быў накіраваны супраць пазіцыі Канстытуцыйнага суда, які «увлёкся определённого рода политикой». Пры гэтым прэзідэнт заявіў, што ў цывілізаваным грамадзтве закон не павінен дамінаваць над правам. Вось так, у нас усё вызначае, аказваецца, не закон, на абароне якога і прызваны стаяць Канстытуцыйны Суд, а права, якое, як вядома, у мацнейшага!

Выступ прэзідэнта яскрава акрэсьліў дзьве галоўныя мэты яго перадвыбарчай палітыкі: нейтралізаваць «стары» парламант і не дапусьціць стварэньня паўнакроўнага «новага». Калі будзе замацаваны кворум у 25% - я ад выбараў «самоустраняюсь!» Што ж, пасаж ня новы. Вясной прэзідэнт таксама заяўляў, што на выбары ня пойдзе і свайго дабіўся. Зараз гэта зрабіць будзе цяжэй, але чаму б не паспрабаваць.

Разам з тым, Лукашэнка зацікаўлены ў тым, каб стварыць бачнасьць парламанту. Таму ён прапанаваў «ужо сёньня» дэпутатам новага Савету пачаць «законотворческую работу». Тое, што Канстытуцыя гэта рабіць забараняе, прэзідэнта не хвалюе - ніякія законы яму і не патрэбны. Хопіць таго, што новыя дэпутаты будуць «совершенствовать правовую базу», дапамагаючы прэзідэнту праводзіць свае ўказы.

На вясеньніх выбарах нашая вобласьць згубіла больш 2 мільярдаў рублёў. Яшчэ больш пойдзе на вецер, калі не адбудуцца і гэтыя выбары. І ўсё гэта дзякуючы прэзідэнту, які дзеля сваіх амбіцыяй марнуе народныя грошы.

Яшчэ больш цынічна выглядаюць клопаты Лукашэнкі пра свой міжнародны імідж. Прэзідэнт - сімвал нацыі і таму ўсюды ў сьвеце трэба яго ўсхваляць і казаць, што ў краіне «Всё хорошо!» У свой час так сваіх падначаленых вучылі Мусаліні і Гітлер, Мао і Сталін. Няўжо нельга павучыцца ў іншых настаўнікаў?

**В.ДРЭМА.**

# ШЧЫРАСЦЬ, НЕПАДКУПНАСЦЬ, ЦЬВЁРДАСЦЬ

**Больш за 200 гадоў, як Беларусь сышла са шляху натуральнага дзяржаўнага жыцьця. Беларусы, як народ, перасталі быць гаспадарамі на сваёй уласнай зямлі. Пад прымусам увесь гэты час нам імкнуліся прышчапіць пачуцьцё чужой радзімы, чужога патрыятызму, чужога ладу думкі. Пераважная большасьць беларусаў ператварылася ў насельніцтва, ад якога захопнікі планамерна адсартоўвалі і зьнішчалі лепшае... Але ва ўсе часы знаходзіліся сярод нас тыя, у каго на поўную моц гараў у сэрцы генетычны агонь продкаў. Яны ўсе свае сілы і здольнасьці ахвяравалі на карысьць абуджэньня і адраджэньня прыгнечанага народу. Сёньня такім чалавекам, які цягне беларусаў з імперскага сьмярдзючага балота да лепшага жыцьця, і стаў Зянон Пазьняк.**

Прысутнасьць яго як дэпутата ў парламанце проста неабходная. Нашая маладая краіна знаходзіцца ў самым цэнтры Эўропы. І калі мы схіляемся ў нізкім рабскім паклоне перад суседам, то глыбока абражаем сваёй паставай іншых суседзяў... А Зянон Пазьняк здольны паводзіць сябе з годнасьцю перад усімі суседнімі народамі, ня кідаючы свой гонар пад ногі мацнейшаму і багацейшаму...

Шчырасьці, непадкупнасьці, цьвёрдасьці пераканаўняў Пазьняка справядліва пабойваюцца чыноўнікі. Так, З.Пазьняк — гэта строгасьць, дысцыпліна і парадак на аснове культуры і духоўнасьці. Пазьняк верыць у свой народ, у яго сілы і будучыню.

Разам зь іншымі будучымі дэпутатамі дэмакратычнага кірунку Зянон Пазьняк хоча даць нашым людзям магчымасьць свабодна працаваць і атрымліваць за сваю працу сапраўдныя грошы, а не капейкі; каб з працай кожнага квітнела і ўмацоўвалася наша з вамі дзяржава - Беларусь; каб былі мы з вамі спакойныя за сябе і нашых дзяцей і ўнукаў.

**Алесь ЖАМОЙЦІН,**
**давераная асоба З.Пазьняка,**
**пісьменьнік,**
**дырэктар Музея-сядзібы**
**Ф.Багушэвіча Ў Кушлянах.**

# Аляксандар Дзергачоў зьвярнуўся ў суд

**Лідар Смаргонскай арганізацыі БНФ юрыст Аляксандр Дзергачоў паведаміў нашаму карэспандэнту, што ён падаў іскавую заяву ў народны суд аб абароне свайго гонару, годнасьці і дзелавой рэпутацыі.**

Адказваць па справе павінны старшыня народнага суда М.Шэлег і пракурор раёну У.Бутрым у сувязі з іхным артыкулам у газэце «Светлый путь» (травень 1995 г.) пад назвай «Не соответствует действительности». У артыкуле сьцьвярджалася, нібыта сп. Дзергачоў нікому не дапамагаў як юрыст і дэпутат і таму ня мае падставаў крытыкаваць кіраўнікоў раённага суда і пракуратуры. 20 кастрычніка разглядаць справу пачаў народны суд Астравецкага раёну. Па ўсім відаць, суд адбудзецца пасьля выбараў.

Сп. А.Дзергачоў зьняў сваю кандыдатуру на выбарах у Вярхоўны Савет на карысьць З.Пазьняка, але ён застаецца кандыдатам у дэпутаты абласнога і гарадзкога саветаў.

# ВЫБЯРЭМ НАЙЛЕПШАГА!

Як чалавек, ён мне падабаецца тым, што ня выракся сваіх каранёў, сваёй Бацькаўшчыны, матчынай мовы. Як веруючы чалавек, Пазьняк ня дзеліць беларусаў на каталікоў і праваслаўных, а бачыць іх у першую чаргу —хрысьціянамі, братамі і сёстрамі, роўнымі паміж сабою ў веры.

**Уладзімер Герасіменка, хірург Смаргонскай райбальніцы.**

# ДЗЕЛЯ ЧАГО МЫ ЖЫВЕМ?

**«Жыцьцё даецца чалавеку толькі адзін раз...», - казаў знакаміты Паўка Карчагін з рамана М.Астроўскага «Як загартоўвалася сталь». Кожны чалавек мае свае мэты ў жыцьці, свае погляды на жыцьцё. Але пры гэтым кожны з нас штодзённа хоча есьці, спаць, мець магчымасьць выхоўваць сваіх дзяцей. Каб гэтыя першародныя патрэбы чалавек мог задаволіць, ён павінен працаваць, альбо красьці. Апошняе разглядаць ня будзем, таму што гэта дзеяньні антыграмадзянскія. Працаваць жа чалавек можа добра, альбо дрэнна, неахайна. Галоўнай недарэчнасьцю былога сацыялістычнага грамадства зьяўлялася тое, што эксплуатаваўся якраз той, хто добра, самааддана працаваў, бо што за сваю працу атрымліваў столькі ж, колькі і неахайны працаўнік. Прынцып ураўнілаўкі зрабіўся тормазам разьвіцьця эканомік сацыялістычных краін, таму што грамадзяне ня мелі матэрыяльных стымулаў паляпшэньня працы.**

Што мы маем цяпер? Цяпер мы маем пагалоўнае беспрацоўе, амаль поўную адсутнасьць сацыяльнай абароны чалавека, і з кожным днём пагаршаецца ўзровень жыцьця. Чаму? Прэзідэнт і прыхільнікі палітыкі прэзідэнта гладка нам растлумачваюць, што вінаватыя: развал вялікай краіны і парушэньні эканамічных сувязяў былых рэспублік СССР. Таму Беларусі трэба ўвайсьці ў адзіную мытную зону з Расеяй, альбо ўвогуле аб'яднацца з ёю. Сказана - зроблена! Увайшлі ў адзіную мытную зону. Каму з жыхароў Беларусі стала ад гэтага лягчэй жыць? Такіх я ня ведаю. Можа толькі грамадзянам Расеі. Чаму нам, у такім выпадку, не аб'яднацца са Злучанымі Штатамі Амерыкі, можа яны нас лепей карміць будуць?

Прабачце, усё гэта - чыстай вады палітыканства. Ня трэба шукаць кармільцаў па-за межамі, а ворагаў народу ўнутры краіны. На жаль, менавіта да падобнай практыкі разважаньняў і дзеяньняў мы ўжо наблізіліся. Сёньня наш прэзідэнт грукае па стале пальцам і заяўляе, што «вражески настроенные силы» не выдаюць заработную плату. А з якіх сродкаў яе выдаваць, калі падаткі па Ўказу прэзідэнта перабольшваюць прыбытак прадпрыемстваў? Заўтра хтосьці пачне грукаць кулаком, гумоваю палкай, ці ўзводзіць курок аўтамата. Пачнецца 1937-ы год.

Можа прыйшла ўжо пара жыруючым дзяржаўным асобам падумаць пра дабрабыт народу не на словах, а на справе. Усё сьветлае і добрае пачынаецца не з нянавісьці, а з любові. Простае жаданьне кожнага чалавека добра жыць трэба паважаць і даваць магчымасьць кожнаму чалавеку жыць так, як ён можа за кошт асабістай працы ў сьферах вытворчасьці, паслуг ці гандлю. У першую чаргу трэба ведаць і памятаць, што любая грамадзка неабходная праца мае гонар. Любая праца выконваецца чалавекам з разьліку асабістай карысьці, а яе вынікі ідуць на карысьць грамадзтва.

Наш цяперашні прэзідэнт - адважны і настойлівы чалавек. Напэўна ён хоча зрабіць для народу штосьці добрае. Але цяжка быць «усебеларускім бацькай», рабіць усё выключна самому, пры гэтым ніколі не памыляцца. Таму сам народ павінен дапамагчы «бацьку-прэзідэнту»: трэба выбраць новы парламант, каб гэты калектыўны розум, як у любой цывілізаванай краіне, пісаў законы нашага жыцьця і рэгулярна кантраляваў і пералічваў дзяржаўную казну. А вызвалены такім чынам ад руціннай працы прэзідэнт пачне пільна сачыць за дакладным выкананьнем усіх прынятых парламантам законаў, растлумачваць парламанту, якія з іх працуюць добра, а якія трэба падпраўляць, куды мэтазгодна накіраваць больш грошай, куды менш. Аднаму чалавеку, загрузнуўшы ў багне псеўдаперабудовы, воз нашай эканомікі не выцягнуць, нават маладому, дужаму і настойліваму.

Патрабуюцца: актыўная законатворчая праца парламанту; рэальная самастойнасьць, падпарадкаванасьць судовых устаноў толькі закону; наяўнасьць магчымасьці кожнаму чалавеку, а не выключна прэзідэнту і яго паплечнікам, праз свабодныя сродкі масавай інфармацыі свабодна выказваць свае разважаньні наконт усіх бакоў нашага жыцьця.

Дзеля чаго існуюць дзяржавы і дзяржаўныя структуры? Толькі дзеля таго, каб ахоўваць правы і жыцьцё грамадзян сваіх краін ад антыграмадзкіх дзеяньняў сваіх жа суайчыньнікаў і любых дэстабілізуючых зьнешніх узьдзеяньняў. І вельмі дрэнна, калі гэтыя структуры пачынаюць ратаваць сваіх жа грамадзян для таго, каб бязьбедна існаваць самім функцыянерам гэтых структур, раздуваць свае штаты пад лозунгам: «Мы змагаемся за шчасьце і дабрабыт народу, за справядлівасьць».

Ня трэба ні з кім змагацца. Трэба даць кожнаму чалавеку магчымасьці!!! Вельмі непрыкметная для кожнага грамадзяніна тут мяжа паміж аб'ектыўнай неабходнасьцю адміністратыўнай надбудовы на яго плячах і жаданьнем гэтай самай надбудовы як ракавай пухліны разрасьціся па вертыкалі, гарызанталі і г.д. Пасьля пабудовы ўсіх вертыкалей і гарызанталей, для дэмакратыі ( г.зн. для дэмаса, а прасьцей кажучы - для працоўнага народу) неба ўжо будзе ў клетачку, а для наменклатурнай арыстакратыі (як калісьці для партыйных функцыянераў) зноў пачнецца «залаты век». Калі МЫ, прабачце, ВЫ хочаце гэтага - падтрымлівайце дыктатуру.

Сакраментальнае пытаньне: «Народ для караля, ці кароль для народу?» Чаму спынілася вытворчасьць? Таму што няма абаротных сродкаў. Чаму няма абаротных сродкаў? Таму, што прадавалі таньней, чым выраблялі, ці таму, што зрабілі і не прадалі, ці таму, што зрабілі, прадалі, а прыбытак забрала падаткавая інсьпекцыя, альбо другая дзяржаўная структура. І першае, і другое, і трэцяе - дрэнна. Але калі памылкі першага ці другога прыкладу робяць толькі дрэнныя кіраўнікі, якія ніколі ня стануць гаспадарамі, колькі бы дзяржаўныя структуры ім ні дапамагалі, то добрыя кіраўнікі, сапраўдныя гаспадары, такіх памылак ня робяць.

А такія гаспадары ёсьць. Але сёньня амаль усе прадпрыемствы стаяць. Таму што дзейнічае трэці прыклад: дзяржаўныя структуры канфіскоўваюць па ўведзенаму імі ж падоткаваму заканадаўству РБ фактычна ўвесь прыбытак амаль усіх працуючых юрыдычных і фізічных асоб. Нават заработную плату выплачваць грошай не застаецца, таму што пазык больш, чым прыбытку.

Многія жыхары Беларусі год таму казалі, што нашай краіне патрэбен жорсткі і моцны кіраўнік, які б навёў парадак у гэтым «разгуле дэмакратыі». Народ, які жыў на працягу 2-х, 3-х чалавечых пакаленьняў у казарме дзяржімперыялізму, адвык разважаць і прымаць рашэньні самастойна. Ён дзейнічаў і разважаў тады зусім так сама, як чатырохгадовы хлапчук, які выпадкова згубіў сваіх бацькоў у шматлюднай вялікай краме. Разгублены і спалоханы хлапчук, апынуўшыся ў такой сітуацыі, пачынае плакаць і клікаць тату з мамай, з надзеяй падаўшы руку першаму сустрэчнаму найбольш сьмеламу і гаварліваму дзяцюку, паабяцаўшаму яму дапамагчы. Справа выпадку, сумленны чалавек ці вымагальнік возьме на рукі гэтае разгубленае «дзіця». «Дзіця» ж, зразумеўшы прыёмнага «бацьку», з палёгкай уздыхае, цалкам даручыўшы яму сваю асобу і, выйшаўшы са стрэсавай сітуацыі разгубленасьці ад зваліўшайся на маладую галаву самастойнасьці, нават на некаторы час засынае...

Калі ж наш «дзіця-народ» расплюшчыў вочы, аказалася, што свабоды слова ўжо няма, месцаў для працы няма, заробку няма, пеньсіі ды стыпендыі ўрэзаны. На чарзе новая калектывізацыя ў адзіны, ужо на ўсю дзяржаву, калгас, па прыкладу «Катлавана» Платонава.

Што ж, чаго хацелі ўчора, тое і маем. Але ці ўсе сёньня хочуць гэтага самага агульнага калгасу? Спадзяюся, што не. Спадзяюся, што ёсьць людзі, якія ўжо могуць працаваць саматойна. Спадзяюся, што такіх людзей сёньня большасьць. Ці гэтыя спадзяваньні суадносны ісьціне -пакажуць восеньскія выбары. Калі народ наш ужо прабудзіўся ад сну, то ў імя шчасьця і асабістай годнасьці нашчадкаў нашых Рэспубліка Беларусь існаваць будзе. Калі ж «дзіця-народ», гэтай нашай гаротнай зямлі яшчэ сьпіць, то, абудзіўшыся ў 1996 годзе можа сваім вачам не паверыць: ужо ня будзе ні сваёй хаты, ні сваёй справы, ні свайго парламанту, ні сваёй краіны.

Найбольш таленавітыя зноў разьедуцца: адных запросіць Усход, другія зьбягуць на Захад. А мы, тыя, што застанемся, зноў будзем гадаваць пералётных птушак, альбо птушак-кукушак, што адкладваюць яйкі ў чужыя гнёзды. Нашымі застануцца толькі: прыёмны «бацька-прэзідэнт», права і абавязак працаваць у вялікім калгасе пад назвай «Беларусь» і надзея на тое, што хто-небудзь за нас падумае і зробіць наша жыцьцё лягчэйшым. Можа гэты «хто-небудзь» дапаможа нам за кошт пагаршэньня свайго жыцьця? Ці часта ваш найлепшы сусед карміў вас сьнеданьнем ці абедам? Напэўна не.

Кожны грамадзянін Беларусі, незалежна ад сваёй нацыянальнай прыналежнасьці, у гонар сваёй чалавечай годнасьці павінен пайсьці 29 лістапада на выбары і аддаць свой голас за тых, каго лічыць дастойнымі кандыдатамі ў дэпутаты дзеля таго, каб зьберагчы дэмакратыю і абараніць сябе і сваіх нашчадкаў ад дыктатуры і бязроднасьці.

**Франц МАМУЛЬ.**

# ...ПАДЛІЧЫЛІ - ПРАСЬЛЯЗІЛІСЬ

**Прайшло болей года, як да ўлады прыйшоў А.Лукашэнка, і хутка ўжо год, як Беларусь увайшла ў адзіную таможанную зону з Расеяй. Чаго ж мы дасягнулі?**

**Па тэмпах падзеньня вытворчасьці Беларусь выйшла на першае месца сярод краін СНД з вынікам мінус 27%. Кошты на прадукты харчаваньня ўзрасьлі за бягучы год у асноўным у 2,3 раза, у тым ліку: на цукар, мяса, хлеб, расьліннае масла - у 2,2 раза, на малочныя вырабы - да 3 разоў. Кошты на аўтамабілі заходняй вытворчасьці ўзьняліся ў 8-10 разоў.**

Ці магло быць іначай? Так, магло! Калі б Беларусь захавала сваю мытную прастору, дык за кошт спагнаньня пошлін за транзіт нафты, газу і іншых тавараў трубаправодным, чыгуначным, аўтамабільным, паветраным транспартам, а таксама спагнаньне выплат за знаходжаньне расейскіх войскаў і ядзерных ракет на нашай тэрыторыі, мы змаглі б больш чым у два разы павялічыць дзяржаўны бюджэт. Аб'ём гэтых выплат і пошлін складае каля 2,7 мільярда долараў ЗША.




Абяцанай прэзідэнтам эканамічнай кампенсацыі ў выглядзе паніжаных цэнаў на энерганосьбіты Беларусь не атрымала і не атрымае.

За кошт пошлін і выплат мы маглі б:

1) дадаткова штогод будаваць 40 000 кватэр плошчай 50- кв.м - гэта 600 млн. долараў;

2) павялічыць пеньсіі пеньсіянерам на 50% - гэта 400 млн. долараў;

3) зьнізіць падаткі з вытворчасьці на 30% і адпаведна павялічыць заработную плату рабочым і служачым - гэта 760 млн. долараў;

4) павялічыць заработную плату работнікам сістэмы адукацыі, аховы здароўя і навукі ў 1,6 раза - гэта 540 млн. долараў;

5) павялічыць стыпендыю студэнтам ВНУ, тэхнікумаў і навучэнцам ПТВ ў 3 разы - гэта 100 млн. долараў;

6) інвеставаць ў вытворчасьць і сельскую гаспадарку на стварэньне новых рабочых месцаў і ўвядзеньне новых тэхналогій - гэта 300 млн. долараў.

Усяго атрымліваецца 2 700 млн. долараў.

Акрамя таго, незалежная эканамічная палітыка дазволіла б нам панізіць цэны і на хлеб, і на масла, і на аўтамабілі.

Рабіце свой выбар: ці быць нам багатай суверэннай дзяржавай, ці жабрацкай калоніяй.

**Станіслаў ГУСАК.**

# ТРЫНАЦЦАТЫ АЎКЦЫЁН

**- Ня можа гэтага быць! - скажаце вы.**

**- Неверагодна, але факт, - скажу Вам я! - У Горадні, горадзе касьцёлаў і прыгожых дзяўчат, пачынаецца трынаццаты аўкцыён па продажу камунальнай маёмасьці.**

**З гэтымі словамі на трыбуне замест адчыніўшай аўкцыён дзівоснай лялькі зьявіўся нязьменны іх вядучы Віктар Шалкевіч.**

На продаж было выстаўлена 10 аб'ектаў камунальнай маёмасьці. Найвялікшую цікавасьць, як высьветлілася, у патэнцыяльных пакупнікоў выклікала дзяржаўнае гандлёвае прадпрыемства «Дом адзеньня». Пачатковы кошт яго складаў 108 мільёнаў рублёў, аднак ахвотных купіць краму знайшлося некалькі, нягледзячы на тое, што аб'ект здаваўся у арэнду на 10 гадоў пры ўмове захаваньня профілю на 5 год і працоўных месцаў на 2 гады.

- Сто дваццаць! Сто пяцьдзесят! Сто восемдзесят! Дзьвесьце! Дзьвесьце пяцьдзесят! Чатырыста! - лічбы мільёнаў зьляталі з вуснаў вядучага шпарчэй, чым кулі з кулямётнай ленты.

У выніку за 420 мільёнаў «Дом адзеньня» купіла фірма «Младзі», хоць перад пачаткам аўкцыёна хадзілі чуткі, што на гэты будынак паклала вока менская «Мілавіца».

Затым «з малатка» было прададзена права забудовы па вуліцы Вялікая Траецкая, 11. Прычым кошт, яго з трох мільёнаў быў дагнаны да пятнаццаці.

Пасьля невялікага перапынку былі прададзены яшчэ дзьве крамы: N 7 па вуліцы Дзяржынскага за 260 млн. рублёў і «Арыяна» па вул. Сьвердлава за 26 млн.. Новымі ўладальнікамі іх сталі фірмы «Арыён» і «Персьпектыва».

На іншыя аб'екты, сярод якіх былі крама N 9 па вуліцы Чырвонаармейскай, 43 і кафэ «Бульбяная» на Камароўцы, пачатковыя кошты якіх перавышалі 1,5 мільярда рублёў, ахвотных не знайшлося.

Аднак, магчыма, што ў 1996-м годзе і там будуць ужо новыя гаспадары, бо наступны аўкцыён у Горадні пройдзе 30 сьнежня.

**В.ДРЭМА.**

# БРУДНЫЯ ЛАПЫ НАД БЕЛАРУСЬСЮ

**Каму патрэбна беларуска-расейская інтэграцыя? Ці наогул зьяўляюцца інтэграцыяй тыя працэссы, якія праходзяць паміж дзьвюма краінамі? Аналіз гісторыі, нават ня надта падрабязны, сьведчыць аб тым, што Беларусь зьяўляецца картаю ў ваенна-палітычнай гульні, якую праводзіць Расея з Эўропай. Беларусь заўжды стаяла на памежжы эўрапейскіх краін з іх турботным суседам.**

У часы сярэднявечча галоўным канкурэнтам Расіі на Беларусі быў усходні фарпост эўрапейскай цывілізацыі -Польшча. У нас Польшча, якая сама толькі вызвалілася ад маскоўскага ярма, няможа быць праціўнікам магутнай ядзернай краіны. А Захад, узначальваемы ЗША, зразумеўшы, што слабая Расея значна небясьпечней ад магутнай, гатовы ахвяраваць ёй страчаныя часткі імперыі. У самой Расеі, акрамя імперска зацікаўленных колаў, ёсць яшчэ зацікаўленыя бакі. Гэта фінансава-эканамічныя і крымінальныя, для якіх пашырэньне ўплыву далей на захад прыносіць немалую выгаду. Ня шмат часу таму, заклапочаная ўнутранымі праблемамі, Расея быццам забыла пра сваю былую заходнюю вотчыну. Умацоўваючыся ўсё больш, яна ня толькі свой позірк кідае на Беларусь, але і працягвае свае брудныя лапы.

Атрымаўшы, быццам падарунак лёсу, «свайго парня» ў асобе прэзідэнта Лукашэнкі, яна, Расея, ня ўпусьціць шанцу вярнуць пад крыло імперскага арла тое, што па няўважлівасьці згубіла. Тым больш, што браткі беларусы не пасьпелі зразумець, што такое незалежнасьць.

Няўжо незразумела, што Расея, якая ніколі не шкадавала сваё, ня будзе шанаваць і чужое? Няўжо беларус, які добра працаваў на паноў, гаспод і таварышэй, ня зможа працаваць на сябе? Адкуль у беларусаў такая абыякавасць да свайго лёсу? Калі мы не зразумеем сваю самабытнасць, мы загінем у віры гісторыі. Другі раз у гэтым стагоддзі мець шанц атрымаць самастойнасць і не выкарыстаць яго?! Патомкі нам гэтага не даруюць.

Таму кожны з нас, хто кахае сваю Радзіму, павінен зрабіць ўсё, што ў яго моцы, каб спыніць здрадніцкую палітыку прэзідэнта і яго паслугачоў. Антыдэмакратычная дыктатура - ужо факт. А барацьба з ёй - абавязак кожнага сумленнага грамадзяніна.

**Янка ТАТАРЫН.**

 



# СУМЕЖЖА

## У ПАЛОНЕ ВЫЧВАРЭНСТВА

**Даўно не перажываў такога гнятлівага ўражаньня, як пасьля наведваньня выставы Яна Кузьміцкага. Першае знаёмства з творамі нашага суайчыньніка (зараз грамадзяніна Швецыі) адбылося яшчэ ў 1993 годзе, калі Кузьміцкі экспанаваўся ў мурах Новага замку. Пасьля былі вернісажы ў Лідзе, Шчучыне, Менску, Віцебску, Полацку. І вось новае прадстаўленьне - на гэты раз у гарадзенскім Старым замку.**

З прамоў дзяжурных выступоўцаў можна было даведацца нямала. І што ў нашым горадзе «асабіста (вылучана - аўт.) многа прыгожых жанчын», і што «на гэтай выставе мы бачым тое, што зроблена і што будзе зроблена» (?!). Зрэшты, у апошнім выслоўі ёсьць поўны сэнс - творчасьць Кузьміцкага лёгка прагназуецца. Увогуле ж, кодэкс карэктнасьці не дазваляе прывесьці ўсе прагучаўшыя «пэрлы» выкшталцонай слоўнасьці.

Пасьля маналог меў сам аўтар. Даволі прэтэнцыёзна ён дэклараваў, што апярэджвае час на многа гадоў (і таму можа падацца незразумелым). Калі гэта сапраўды так, то, мяркуючы па працах Кузьміцкага, будучыня нас чакае жахлівая. Ня трэба адмаўляць мастаку ў яго бачаньні сьвету, але сумнеўна, што яго творчасьць можа выклікаць эстэтычныя пачуцьці. Наадварот, пачварна-гібрыдныя выявы жанчынаў абуджаюць гідлівасьць і некраасацыяцыі. Непрыхаваная апалагетыка паганскіх культаў (характэрныя ў гэтым плане драўляныя скульптуры «каленвалаў»-фалаў) цягне нас хутчэй на тысячагоддзе назад. Гэта наконт апярэджваньня часу. Трапна выказаўся ў поўным сэнсе Ільля Глазуноў, адзначыўшы, што не разумее тых творцаў, якія апярэджваюць час: па-першае, яны пазбаўляюць сучасьнікаў эстэтычнай асалоды, па-другое, адбіраюць хлеб у наступнага пакаленьня мастакоў.



*Фотарэпрадукцыя карціны Яна Кузьміцкага «Мара».*

Больш цікавымі ўяўляюцца працы Кузьміцкага ў тэхніцы манатыпіі. Але і тут усё прасякнута суіцыдальнымі матывамі і беспрасьветнасьцю, адсутнічаюць нават намёкі на жыцьцясьцьвярджальнасьць. Выстава Кузьміцкага - апафеоз паганства і чорных сілаў, яе энергетычны магнетызм узьдзейнічае на псіхіку гледача цалкам разбуральна.

Напрыканцы госьць пачаў скардзіцца на візавы рэжым і беларускае чыноўніцтва. Гэта гучала наколькі слушна, настолькі і недарэчна, бо мастацкі вернісаж - ня самае прыдатнае месца для такіх нараканьняў.

Безумоўна, можна парадавацца за мастака як чалавека - ён здолеў перамагчы шматлікія жыцьцёвыя нягоды, здабыў поўную вядомасьць, а на Беларусі знайшоў сабе новую жонку. Што ж тычыцца творчасьці Кузьміцкага, то падобна, што ягонае сьветаўспрыманьне з дзяцінства зацыклілася на мізантропіі, душа творцы знаходзіцца ў палоне паталагічных выпачаньняў.

І яшчэ адно. Пасьля азначанага вернісажу падалося, што нашая славутая беларуская гасьцінасьць спакваля трансфармавалася ў пахлебства таннага кшталту. Я бачыў, як крывілася бальшыня прысутных, гледзячы на штампаваныя палотны з цялесна-тварнымі вычварэньнямі. Аднак жа «апераджальны» мастак! Ды яшчэ са Швецыі! Так што «изображаем радость»!

**Хельмут КАМЕНСКІ.**

## РЭЦЫДЫВЫ ЭЛІТАРНАЙ КУЛЬТУРЫ

**4-5 лістапада ў старажытным Полацку адбылася Міжнародная канферэнцыя «Літаратурны працэс: рэцыдывы посттаталітарнай маргінальнасьці», арганізаваная Таварыствам Вольных Літаратараў (ТВЛ) пры фінансавай падтрымцы Беларускага Фонду Сораса.**

Ва ўтульнай бібліятэцы Полацкага дзяржаўнага музея кнігадрукаваньня сабраліся вядомыя літаратары, журналісты і выдаўцы - прадстаўнікі незалежных выданьняў Беларусі і Расеі (на вялікі жаль, не патрапілі на канферэнцыю запрошаныя калегі з Украіны і Польшчы), каб абмеркаваць агульную для посттаталітарных краін Усходняй Эўропы сучасную культурніцкую сітуацыю, падзяліцца ўласным досьведам у ладжаньні незалежная літаратурна-мастацкага працэсу.

Вядучы канферэнцыі - Старшыня ТВЛ Алесь Аркуш - зазначыў, што «аднячасова з працэсамі адноснай дэмакратызацыі грамадзкага жыцьця, імклівай дэградацыяй афіцыёзу і адсутнасьцю жорсткай цэнзуры дый, увогуле, з-за непрадуманай культурнай палітыкі з боку кіраўніцтва посткамуністычных дзяржаваў, назіраецца распад дзяржаўных культурніцкіх інстытутаў, якія інсьпіравалі і рэгулявалі літаратурна-мастацкі працэс. У складаных эканамічных умовах першыя пазіцыі ў культурніцкім жыцьці заняла камерцыялізаваная маскультура, а сур'ёзная высокаінтэлектуальная літаратура апынулася на ўзбочыне, стала маргінальнаю. З другога боку, апошнім часам паўстала, нібыта ў супрацьвагу агульнай тэндэнцыі, шмат незалежных літаратурных суполак, арганізацый, выданьняў і выдавецтваў, якія падтрымліваюць элітарнае мастацтва. І менавіта яны сёньня фармуюць новую культурную прастору».

Пад час канферэнцыі ў музеі працавала выстава-продаж некамерцыйных літаратурна-мастацкіх выданьняў, якія выходзяць у Маскве, Санкт-Пецярбургу, Вільні, Менску, Горадні, Полацку, Кіеве, Львове ды іншых гарадах. З айчынных выданьняў асаблівай цікавасьцю пакупнікоў карысталася газета «Наша Ніва», часопісы «Калосьсе» і «Сьвіцязь».

Галоўны вынік канферэнцыі - дасягненьне канкрэтных дамоўленасьцей паміж літаратурнымі суполкамі розных гарадоў аб супрацоўніцтве і стварэньні альтэрнатыўнай сістэмы распаўсюджваньня незалежных выданьняў, каб супрацьстаяць наступу маскультуры і дзяржаўнага афіцыёзу.

**Людвік САРОКА.**

### РАСЕЯ

Пікет «Памяці ахвяр камуністычнай дыктатуры» правялі 7 лістапада ў Салавецкага каменя ў Маскве сябры «Антыфашыстоўскага маладзёжнага руху» і Маскоўскага антыфашыстоўскага цэнтру. Мерапрыемства праходзіла з 16.30 да 17.30. Пікетчыкі трымалі плакаты: «Зюганаў прапагандуе нацыянал-сацыялізм», «Далой камуняк!», «74 гады пілі нашу кроў».

Прысутныя скандавалі лозунгі: «Фашызм ня пройдзе, камунізм ня пройдзе».

### ПРЫДНЯСТРОЎЕ

«Прызнаць Прыднястроўскую Малдаўскую Рэспубліку, узнавіць Савецкі Саюз, спыніць рынкавыя рэформы», - такія патрабаваньні вылучылі ў сваёй рэзалюцыі ўдзельнікі мітынгу ў Тыраспалі, прысьвечанага 78-й гадавіне Кастрычніцкага перавароту. Выступоўцы асудзілі палітыку ўраду Прыднястроўя, якая, на іх думку, вядзе да «капіталізацыі і развалу эканомікі». Аратары скрытыкавалі праект новай Канстытуцыі Прыднястроўя, які прадугледжвае аднолькавую дзяржаўную абарону ўсіх форм уласнасьці. Лідар блоку левых сіл прафесар Тыраспальскага ўніверсітэту Васіль Якаўлеў заўважыў, што: «Прыднястроўе знаходзіцца ў цяжкім сацыяльна-эканамічным становішчы па віне кіраўніцтва Расеі». На думку Якаўлева, Прыднястроўская Малдаўская Рэспубліка «ня будзе прызнана ў якасьці незалежнай дзяржавы, пакуль пры ўладзе ў Расеі знаходзяцца антынародныя і антыславянскія сілы».

Мітынг адбыўся 7 лістапада. У ім удзельнічала каля 1500 чалавек.

### УКРАІНА

«Камуністычная сістэма павінна быць асуджана трыбуналам накшталт Нюрнбергскага», - лічаць удзельнікі Міжнароднага кангрэсу палітычных вязьняў камуністычных рэжымаў. Кангрэс адкрыўся 7 лістапада ў Кіеве ў памяшканьні Інстытута гісторыі літаратуры. На пленарных паседжаньнях выступалі былыя палітзьняволеныя: Яўген Пранюк, Вячаслаў Чарнавіл, Март Нікпус, Аляксандр Падрабінэк, Яўген Сьвярсьцюк. Кангрэс доўжыўся два дні.

* * *

Да кансалідацыі вакол ідэі украінскай дзяржаўнасьці заклікалі ўдзельнікі мітынгу нацыянал-дэмакратычных сілаў. Мітынг адбыўся 7 лістапада. Акцыя прымеркавана да гадавіны кастрычніцкага перавароту. У ёй прынялі ўдзел Старшыня Народнага Руху Украіны Вячаслаў Чарнавіл, Старшыня Кангрэсу украінскіх нацыяналістаў Яраслава Сьцэцко і Аляксандр Мароз. Ён заклікаў прысутных да згоды. У акцыі ўдзельнічала каля 3 тысяч чалавек.

Згодна дамоўленасьці з А.Марозам, лідар руху В.Чарнавіл павінен быў выступіць на мітынгу левых сіл, які праходзіў у Кіеве ў той самы дзень. Аднак, нягледзячы на просьбу Мароза даць лідару слова, удзельнікі гэтай маніфестацыі адмовілі Чарнавілу ў выступленьні.

На мітынгу левых сіл сабралося каля 4 тысяч чалавек. У ім удзельнічалі старшыня Камуністычнай партыі краіны Пётр Сіманенка, намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету Украіны Аляксандр Ткачэнка. Удзельнікі акцыі асудзілі палітыку ўраду і прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы. Яны заклікалі да адраджэньня Савецкага Саюзу.

**"Э.-Х."**

## АДГУКНІСЯ БРАТ!

Мазур Аляксандр Іосіфавіч, 1922 года нараджэньня. Нарадзіўся і жыў да 1942-43 г.г. у вёсцы Монькавічы Баранавіцкай вобласьці (колішняй) Слонімскага раёну (колішняга). Зараз - Гарадзенская вобласьць, Мастоўскі раён. Прыкладна ў 1942-43 годзе быў угнаны ў Нямеччыну, знаходзіўся ў Кёльне. З 1950-54 г. - у Аўстраліі. Былі фотаздымкі, якія пацьвярджаюць гэтыя радкі. Яны былі перададзены мне ў 1955-60 г. нейкай жанчынай. Але, на жаль, гэтыя фотаздымкі згубіліся. У 1994 годзе нехта са знаёмых бачыў па тэлевізару аўстралійскага спартсмэна, у якога прозьвішча было Уэмлі Мазур.

Калі хто ведае, ці, чуў што-небудзь пра яго, калі ласка, паведамьце ў рэдакцыю газеты «Пагоня».

**З павагай**
**Маня МАЗУР (па мужу Пузач),**
**сястра Аляксандра Мазура.**

## ПРА АКЦЫЗНЫЯ МАРКІ І МЫТНЫ САЮЗ

**Мытны саюз з Расеяй здавалася б зьняў усе абмежаваньні на гандаль нашымі таварамі ў Расеі і расейскімі ў нас. Але вы глыбока памыліцеся, калі паспрабуеце заняцца гандлем расейскай гарэлкай ці тытуёвымі вырабамі.**

Так, вы без перашкод завязеце іх на Беларусь, але проста так пусьціць у гандаль ня зможаце. Справа ў тым, што ў адпаведнасьці з Указамі Прэзідэнта N 116 і N 300, сьпіртныя і тытунёвыя вырабы з Расеі павінны рэалізоўвацца ў Беларусі з акцызнымі маркамі. Як мне патлумачылі ў Лідзкай гарадзкой падаткавай інсьпекцыі, гэта маркі не на ўвоз, а на рэалізацыю. Ёсьць яшчэ і такая асаблівасьць, што калі, скажам, на бутэльцы ўжо ёсьць расейская акцызная марка, то ў Беларусі вы павінны клеіць яшчэ і беларускую. Кошт марак перыядычна мяняецца, а апошнім часам інфармацыю аб іх кошце падаюць у ЭКЮ, каб усім «ясьней» было.

Так што для каго мытны саюз, а для каго - акцызныя мытарствы.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## ДУШЫМ САМЫХ ЛЕПШЫХ

**На мінулым тыдні сродкі масавай інфармацыі («Известия», «Звязда») абляцела сенсацыйная інфармацыя пра захапленьне японцаў высокай якасьцю кампрэсараў, якія выпускаюцца ў Баранавічах на заводзе, запушчаным з дапамогай японскіх сьпецыялістаў.**

«Звязда» нават паведаміла, што японцы ледзь не ўсёй краінай бегаюць за нашым Часовым Паверэным Сяргеем Саенкам, каб узяць аўтограф з гэтай нагоды. А вось дырэктар завода Уладзімір Рэштка сказаў адно толькі слова: «Задушылі». Справа ў тым, што завод, які выпускае ўнікальную прадукцыю сусьветнага ўзроўню, так прыдушылі падаткамі, што ён «лёг» побач з іншымі Баранавіцкімі заводамі. Яшчэ адна ахвяра мытнага саюзу з Расеяй.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## ФІРМА ГАРАНТУЕ

15 лістапада ў Лідзе адбылося падпісаньне выніковых папераў паміж прадстаўнікамі Міністэрства абароны і мясцовых органаў улады, з аднаго боку, і нямецкай фірмай горада Патсдама аб зьняцьці гарантый з Новага Паўднёвага гарадка, пабудаванага гэтай фірмай. Закончыўся год з моманту здачы гарадка ў 960 кватэраў. На гарантыі яшчэ на год застануцца толькі халадзільныя камеры ў магазіне «Патсдам».

**Ул.інф**

## ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА!

Беларуская Рэдакцыя Польскага Радыё з прыемнасьцю паведамляе, што, ідучы насустрач прапанovам многіх слухачоў, увяла новую перадачу «Канцэрт віншаваньняў». Праз нашую праграму можаце перадаць зычэньні зьдзяйсьненьня ўсіх мараў у жыцьці Вашым блізкім ды знаёмым. І гэта ўсё за кошт аднае маркі, якую трэба наклеіць на канверт, а ў канверт уклаcьці сваю заяўку. Усё гэта перасылаць на адрас:

**Беларуская Рэдакцыя**
**Польскага Радыё**
**00-977 Варшава**
**P.O.Box 46**
**Польшча**

Застаецца толькі скарыстаць з нагоды і напісаць нам. Па меры нашых магчымасьцяў мы пастараемся таксама заспакоіць Вашы музычныя патрабаваньні. А наш «Канцэрт віншаваньняў» гучыць кожную нядзелю ў перадачы а 16.30 ды ў панядзелак ў перадачы а 19.00 гадзіне па менскім часе.

Чакаем вашых заявак!

 

